© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# ПАГОНЯ

Чацвер
23 верасня 1999 г.
№ 56 (433)
Кошт 50.000 руб.

**Апошні шанец!!!**
**Гарадзенцы сёньня яшчэ маюць магчымасць аформіць падпіску на ПАГОНЮ на чацвёрты квартал**

## Маланкавы тэндэр

**Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня Беларусі аб'явіла тэндэр па падбору пастаўшчыкоў тэхналагічнага абсталяваньня для рэканструкцыі гродзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман».**

Згодна з умовамі тэндэру, пастаўляемыя тэхналагічныя лініі павінны забяспечваць вытворчасьць цыгарэт з фільтрам у аб'ёме 5,6 мільярда штук у год пры працы вытворчасьці ў дзве змены. Абсталяваньне цэху падрыхтоўкі тытуню павінна забяспечваць магутнасьць 15 тысяч тон у год і складацца з неабходных установак для апрацоўкі тытуню амерыканскага і ўсходняга гатункаў.

Усё б нічога, ды вось толькі згодна з гэтай інфармацыяй ,якая была распаўсюджана 16 верасьня, заяўкі для ўдзелу у конкурсе прымаліся тэндэрнай камісіяй канцэрна «Белдзяржхарчпрам» толькі да 20 верасьня.

**Аляксей Арэшка**

## Сьвята уз`яднаньня

**Гэтымі днямі Гарадзенская вобласьць сьвяткуе 60-я ўгодкі ўз'яднаньня Заходняй Беларусі і БССР.**

16 верасьня ў Гродна адбыўся ўрачысты сход грамадскасьці, удзел у якім таксама ўзялі прадстаўнікі кожнага раёна, а 17 верасьня ў школах вобласьці будзе праведзены ўрок, прысьвечаны юбілейнай даце. У навучальных установах і на прадпрыемствах прайшлі гістарычныя чытаньні; адзначана патрыятычная тэматыка, надрукаваная ў газетах Воранаўскага, Смаргонскага, Сьвіслацкага, Лідскага і Іўеўскага раёнаў.

У Карэлічах адбылося сьвята цэнтральнай вуліцы горада, якая носіць назву «17-га верасьня», а таксама прайшлі вечарыны памяці вядомых заходнебеларускіх барацьбітоў за ўз'яднаньне Заходняй Беларусі і БССР Царука, Жалязняковіча, Арцюха. У гарадзенскім кінатэатры «Чырвоная зорка» наладжаны паказ мастацкіх фільмаў «Чырвонае лісьце», «Міколка-паравоз», хроніка-дакументальных «Мяжа на Захадзе» і «Пётр Машэраў».

Разам з тым, як стала вядома, гарадзкія ўлады адмовілі Саюзу палякаў Беларусі ўключыць у прагляд дакументальную кінастужку «Літва, Айчына мая!», прысьвечаную жыцьцю і дзейнасьці ўраджэнца Гродзеншчыны Адама Міцкевіча.

## Кафедры польскай філалогіі - 10

**У Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсітэце прайшла трохдзённая міжнародная навуковая канферэнцыя, прысьвечаная 10-годдзю з дня адкрыцьця кафедры польскай філалогіі.**

15 верасьня, у дзень адкрыцьця канферэнцыі, з дакладам выступіла загадчыца кафедры, доктар філалагічных навук, прафесар Сьвятлана Мусіенка. З прывітальным словам да прысутных зьвярнуліся пасол Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч, польскі консул у Гродне Сільвестар Шостак, кіраўнік Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін, а таксама прадстаўнікі беларускага дыпламатычнага корпуса ў Польшчы. У той жа дзень за «круглым сталом» беларускія і польскія вучоныя абмяркавалі тэму «малай Айчыны» у творчасьці Адама Міцкевіча. Падчас пасяджэньняў па секцыях прагучалі шматлікія выступленьні дасьледчыкаў творчасьці гэтага сусьветна вядомага паэта.

Удзельнікі канферэнцыі наведалі старажытны Навагрудак.

**Антон Лабовіч**




**24 і 25 верасьня** - воблачна, з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +8...+13, удзень +16...+21.

# Рынак «Паўднёвы» пачне працаваць 1 кастрычніка



**21 верасьня на тэрыторыі рынка «Паўднёвы» з удзелам намесьніка старшыні аблвыканкама Міхаіла Беляева і адказнага супрацоўніка Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Сяргея Гараева адбылася сустрэча больш дзесятка «вертыкальшчыкаў» з сябрамі Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў, якія страйкуюць з першага верасьня.**

Падчас гэтай сустрэчы высьветлілася, што страйк гандляроў рынка «Паўднёвы» хвалюе не толькі гарадзенцаў, але і высокіх чыноўнікаў. Кожны з «вертыкальшчыкаў» выступіў з палымянай прамовай, у якой заклікаў прысутных выйсьці на працу 24 верасьня. Згодна з іхнімі прамовамі, улада ўжо вырашыла ўсе праблемы, што прымусілі прадпрымальнікаў у свой час распачаць страйк. Аднак пасьля палымяных словаў высьветлілася, што ўлада фактычна нічога не зрабіла, каб кардынальна выправіць становішча. Усё гэта дало падставу аднаму з прадпрымальнікаў так падвесьці рысу пад сустрэчай, якая цягнулася амаль дзве гадзіны:

- Зусім не пра інтарэсы людзей Вы турбуецеся, а пра інтарэсы дзіравага бюджэту!

Апладысмэнтамі сустрэлі прадпрымальнікі выступ аднаго са сваіх лідараў - Валерыя Леванеўскага, які нагадаў пра тое, што Свабодным прафсаюзам больш як тыдзень таму падрыхтаваны праект Дэкрэта, прыняцьцё якога вырашыла б усе праблемы.

- Згодна з гэтым праектам, мы пагаджаемся плаціць падаткаў на 50 працэнтаў больш, - заявіў Леванеўскі. - Аднак улада павінна гарантаваць, што больш ніякіх пабораў з нас браць не будзе, што нас не будуць пераследаваць у крымінальніках, патрабуючы нікому не патрэбныя паперы, уводзячы неабгрунтаваныя абмежаваньні.

З улікам таго, што Дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N14 не адменены і яго дзеяньне не прыпынена, сход не пайшоў насустрач чыноўнікам. За тое, каб неадкладна прыступіць да працы, прагаласавала толькі тры з больш чым 500 прысутных. Астатнія дамовіліся яшчэ раз сустрэцца 28 верасьня з тым, каб прыняць рашэньне аб арганізаваным выхадзе са страйку першага кастрычніка. Пры гэтым былі прынятыя пад увагу асабістыя гарантыі намесьніка старшыні аблвыканкама Міхаіла Беляева пра тое, што на працягу кастрычніка (пакуль будзе рыхтавацца заканадаўчая база, якая б задаволіла і пакупнікоў, і прадаўцоў) да прадпрымальнікаў не будуць выкарыстоўвацца драконаўскія меры, прадугледжаныя вышэйзгаданым Дэкрэтам.

Час пакажа, чаго вартыя гарантыі спадара Беляева...

**Мікола Туравец**

**На здымку: «Вся президентская рать» (у цэнтры М. Беляеў) не здолела «ўламаць» прадпрымальнікаў.**

## Нам не засталося нават «Спадчыны»

**Ужо некалькі тыдняў жыхары Гарадзеншчыны знемагаюць ад недахопу такога тавару штодзённага народнага спажываньня, як гарэлка. Прычыны гарэлачнага дэфіцыту ўзьніклі яшчэ летам і накладаліся адна на другую. Самая галоўная - гэта недахоп зерня, з якога робяць спірт.**

Яшчэ раней беларускі ўрад так зарэгуляваў парадак вытворчасьці спірту з давальніцкай сыравіны, што расейскія фірмы практычна спынілі заказы на перапрацоўку зерня беларускім спіртзаводам. Мясцовыя «бровары», якія не здольныя наладзіць вытворчасьць вышэйшых гатункаў спірту, паводле ўказа кіраўніцтва краіны, больш не могуць пастаўляць нізкаякасны спірт лікёра-гарэлачным заводам. Замежныя спіртныя напоі абкладаюцца вар'яцкімі мытамі, што робіць іх цэны недасяжальнымі для беларускіх спажыўцоў.

Калі ўлічыць, што страйкуюць мясцовыя прадпрымальнікі, якія плацяць у мясцовы бюджэт амаль трэцюю частку даходу, а крамы пазбавіліся тавару, на якім зараблялі асноўны прыбытак, то не зразумела, з якіх сродкаў мясцовыя ўлады будуць плаціць бюджэтнікам заробкі.

**Б.Кашталян**

## Пазьняк перавышае паўнамоцтвы?

Гарадзенская гарадская Рада БНФ на апошнім пасяджэньні прыняла заяву. У ёй гаворыцца, што «прапанова спадара З.Пазьняка аб скліканьні альтэрнатыўнага з'езду Партыі БНФ і самавольная спроба адхіліць Л.Баршчэўскага ад пасады выконваючага абавязкі старшыні Фронту, супярэчыць рашэньням Сойму ад 11 верасьня і з'яўляецца грубым парушэньнем статута арганізацыі, перавышэньнем паўнамоцтваў яе старшыні».

Гарадзенская гарадская Рада лічыць, што падобныя дзеяньні вядуць да расколу Фронту, ідуць на карысьць існуючаму рэжыму. «Мы заклікаем усе структуры Народнага Фронту кіравацца статутам і падпарадкоўвацца рашэньням Сойму БНФ». Пры прыняцьці заявы прысутнічала восем з пятнаццаці сябраў Рады, шэсьць прагаласавалі «за», два сябры ўстрымаліся.

**Ул. інф.**

# Беларуская сіла ў палітычнай арганізацыі

**Ужо дзесяць гадоў антыбеларускія палітычныя асяродкі рознымі спосабамі змагаюцца супраць Беларускага Народнага Фронту. Асабліва злавесная стала гэтая барацьба ў перыяд дыктатуры і адкрытай палітыкі Расеі, накіраванай на інкарпарацыю і зьнішчэньне дзяржаўнасьці Беларусі.**

Тры гады прамаскоўскага рэжыму, тры гады мэтанакіраванай, пасьлядоўнай разбуральнай працы ў Фронце ўжо далі свой атрутны плён. Самым страшным вынікам атакі на нацыянальны рух зьяўляецца ні подкуп, ні здрада, ні перараджэньне, а нянавісьць.

Тое ж самае клішэ ўжывалі для разбурэньня Украінскага Руху. І калі яго раскалолі, калі забралі кіраўніка - вялікага сына Украіны і майго сябра Вячаслава Чарнавіла, - то яго бліжэйшыя паплечнікі і раскольнікі не прыйшлі на яго пахаваньне. Нават сьмерць не спыніла нянавісьці аднадумцаў.

Цяпер некаторыя мае аднадумцы, якім я аддаў частку сваёй душы, а некаторых прывёў у беларускае адраджэньне, змагаюцца з «бандай Пазьняка».

У аматарскай газэце, якая называецца імем БНФ, сябры зьмяшчаюць мой фотаздымак з 1988 года ў Курапатах (у Курапатах...) побач з партрэтам Сталіна, на якім зарэтушаваны калючы дрот і надпіс «Кат» (каб былі іншыя асацыяцыі). 11 гадоў таму маладыя беларусы зрабілі гэты надпіс на партрэце Сталіна. Цяпер яны зарэтушавалі сваю маладосьць.

Тут я кажу не пра пачуцьці, не пра мараль. Так выяўляецца закон нянавісьці, пра які ворагі беларушчыны ведаюць лепш, чым сьвядомыя беларусы.

### Аб партыі

Шкада, што мае прапановы аб кааліцыйным адзінстве Фронту былі адкінутыя апанэнтамі. Цяпер я вымушаны шукаць і прапаноўваць іншае рашэньне. Беларускае адраджэньне мусіць быць згуртаваным, а Фронт -адзіным у сваіх дзеяньнях, палітыцы і структурнай сістэме.

Мяркую, што арганізацыйнай асновай адзінства Фронту павінна стаць у гэтых умовах Партыя БНФ. Трэба падвысіць яе функцыі, прыняць новыя ўдакладненыя Праграму і Статут, выбраць кіруючыя органы, старшыню, намесьнікаў старшыні, вызначыць палітычныя задачы на бліжэйшы перыяд і арганізацыйна згуртаваць вакол яе ўвесь Фронт, усе здаровыя беларускія арганізацыі сілы ў БНФ.

Пасьля Зьезду Партыі БНФ павінна адбыцца 2-е пасяджэньне VI Зьезду БНФ «Адраджэньне», дзе засталося выбраць Сойм і намесьнікаў старшыні БНФ. Сойм БНФ «Адраджэньне» прапаную выбіраць па аб'яднаўчай мадэлі. Палову Сойму БНФ (за якую галасуюць цэлым сьпісам) складае Сойм Партыі БНФ. Другая палова абіраецца з сяброў БНФ «Адраджэньне». Пры тым палову гэтай паловы (50 працэнтаў) выбіраюць на зьезьдзе, а другая палова (50 працэнтаў) дэлегуецца ад рэгіянальных арганізацыяў БНФ «Адраджэньне».

Такім чынам ствараецца аб'яднаны Сойм БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, фармуецца адзіная Управа з падзелам функцыяў. Сойм БНФ «Адраджэньне» дзейнічае як адзіная кіруючая структура Фронту, а па вызначаных пытаньнях - выступае Сойм Партыі. Гэта перспэктыўны крок наперад па ўмацаваньні палітычнай арганізацыі Фронту. Менавіта партыя робіцца асновай і грунтам руху. Гэта добра, бо беларускае адраджэньне павінна мець моцную палітычную партыю ў аснове вызвольнага руху. Усё гэта стасуецца з заканадаўствам.

### Аб пэрсанальным кіраўніцтве

Пажадана, каб быў адзін старшыня Фронту і Партыі Фронту, але -функцыянальна розныя намесьнікі: два выбіраюцца ад Партыі БНФ і два ад Фронту «Адраджэньне».

Калі ж будзе вырашана, што павінны быць два асобныя старшыні (Фронту і Партыі Фронту), то можна пагадзіцца і на гэтае рашэньне (падобнае я ўжо прапаноўваў). Яно прадугледжвае кааліцыйнае супрацоўніцтва (каардынацыю) кіраўніцтва.

Рэвізійная камісія павінна быць адзінай, гэтак жа як і камісіі Сойму. Але Партыя БНФ можа ствараць свае неабходныя ёй камісіі. Павінен быць дарадчы ворган - адзіны Грамадзка-Палітычны камітэт Фронту, які фармуецца Соймам Фронту і старшынём. Калі ж старшыняў будзе два, то ствараецца Грамадзка-Палітычная нарада для каардынацыі дзейнасьці.

Я яшчэ раз прапаную захаваць (на іншым узроўні) адраджэнцкае і арганізацыйнае адзінства Фронту, які ўжо ня ёсьць адзіным. І ня трэба апанэнтам заплюшчваць вочы ды рабіць выгляд, што падзелу няма, пераводзіць увагу на асобу старшыні. Нават калі б я ўвогуле пакінуў Фронт, ён бы, тым больш, не застаўся б адзіным. Я добра ведаю і свае магчымасьці, і сэнс перасьледу маёй асобы рэжымам, і зьмест таго, што робіць у Фронце, і прыроду пэрманэнтных атакаў.

Я не магу сядзець склаўшы рукі і глядзець, як марнуецца час і нішчыцца арганізацыя. «Новыя дэмакраты» ў Фронце не пажадалі ні разьмяркоўваць са мной аб маіх прапановах, ні супрацоўнічаць.

**Зянон Пазьняк**

**(Працяг на стар. 2)**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Вячаслаў Сіўчык: «Фронт застанецца адзінай арганізацыяй!»

**Апошнія падзеі у Беларускім Народным Фронце выклікаюць самыя супярэчлівыя меркаванні ў грамадстве. Сёння на старонках ПАГОНІ свой пункт гледжання выказвае адзін з кіраўнікоў Фронту, выконваючы абавязкі адказнага сакратара Управы БНФ, Вячаслаў Сіўчык.**

***- Спадар Вячаслаў, што цяпер, на Ваш погляд, адбываецца ў Фронце?***

- Фронт перажывае надзвычай нялёгкі час. Ёсць верагоднасць, што ён будзе расколаты. У гэтым выпадку спраўдзіцца спрадвечная мара ворагаў беларушчыны, бо менавіта БНФ быў гарантам незалежнасці нашай краіны.

***- Ствараецца ўражанне, што сённяшнія падзеі ў Фронце ёсць сплянаваны сцэнар спецслужбаў, скіраваны на развал адзінай баяздольнай структуры ў Беларусі?***

- Гэта цалкам магчыма. Але справа ў тым, што частка фронтаўскага кіраўніцтва на чале з Пазьняком не пагадзілася з рашэннем верасьнёўскага Сойму БНФ аб прызначэнні другой сесіі VI З"езду БНФ «Адраджэнне» і IV З"езду Партыі БНФ на канец кастрычніка. Яны вылучылі цэлы шэраг надуманых прычынаў, каб гэтыя рашэнні не выконваць. Адназначна, што дзеянні гэтай часткі фронтаўскага кіраўніцтва будуць мець непапраўныя наступствы не толькі для БНФ, але і для ўсёй краіны.

***- 26-га верасня Зянон Пазьняк прызначыў правядзенне Зьезду Партыі БНФ. Як Вы ставіцеся да гэтага З"езду?***

- Калі б гэта быў з"езд нейкай новай партыі, то ўсё нармальна. Але праводзіцца з"езд ужо існуючай партыі БНФ. Так склалася, што з"езды Партыі БНФ заўсёды адбываліся пасля заканчэння З"езда БНФ «Адраджэнне». Паводле статута, старшыня не мае права прызначайць з"езд партыі. Першая сесія VI З"езду БНФ «Адраджэнне» не абрала новага старшыню, дзеля гэтага і была прызначана другая сесія на 30-31 кастрычніка.

***- Днямі Зянон Пазьняк перадаў паўнамоцтвы старшыні Фронту Юрасю Беленькаму. У Фронце што - двоеўладдзе?***

- Гэтае распараджэнне з"яўляецца не статутным. Зянон Пазьняк не меў паўнамоцтваў адмяняць рашэнні Сойму і З"езду. А паводле гэтых рашэнняў, выконваючым абавязкі старшыні Фронту быў прызначаны Лявон Баршчэўскі. Верасьнёўскі Сойм Партыі БНФ прыняў спецыяльную пастанову аб тым, што гэтыя распараджэнні Пазьняка не маюць сілы.

***- Вярхоўны Савет зацвердзіў на перамовы з уладамі дзве кандыдатуры ад Фронту: Вінцука Вячорку і Юрася Беленькага. Ці можам мы гэта лічыць сведчаннем падзелу ў Фронце?***

- Тут няма ніякіх праблемаў. Спадары Вячорка і Беленькі былі вылучаны на перамовы верасьнёўскім Соймам Партыі. Перабольшваць падзел нельга. Абсалютная большасць, я хачу гэта падкрэсліць, сяброў Фронту лічыць, што БНФ павінен застацца адзінай арганізацыяй. Я асабіста спадзяюся, што гэтая думка шэраговых сяброў арганізацыі будзе ўлічана, і Народны Фронт застанецца адзінай і моцнай арганізацыяй!

**Павал Мажэйка**

# Услед за Віннікавай і Захаранкам...



**Па-ранейшаму нічога не вядома пра лёс першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара, які знік у Мінску ўвечары 16 верасня разам з генеральным дырэктарам фірмы «Красіко» Анатолем Красоўскім.**

Прыкладна ў 22 гадзіны 45 хвілін яны выйшлі з лазні, размешчанай у раёне Менскага мотавелазавода, селі ў аўтамабіль «Джып», але дадому не вярнуліся, хаця, паводле слоў жонкі В.Ганчара Зінаіды, у 23 гадзіны 30 хвілін на кватэры ў віцэ-спікера павінна была адбыцца важная тэлефонная размова.

Намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч з гэтай нагоды заявіў «Интерфаксу», што В.Ганчар інсцэніраваў уласнае знікненне з мэтай нагадаць грамадству пра сябе, зарабіць пэўны палітычны капітал, а таксама паспрабаваць сарваць пачатак дыялогу паміж уладай і апазіцыяй. На думку І.Пашкевіча, В.Ганчар, як і Ю.Захарэнка, знаходзіцца або за мяжой, або на летніку аднаго з сяброў. Намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама, першы сакратар ЦК КПБ Віктар Чыкін таксама з «падазрэннем» паставіўся да таго, што «апазіцыя пачынае знікаць». «Версію, выказаную І.Пашкевічам, выключыць цяжка», — лічыць В.Чыкін.

Родныя і сябры першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара і генеральнага дырэктара фірмы «Красіка» Анатоля Красоўскага спрабуюць самі высвятліць абставіны іхняга знікнення.

Увечары 17 верасня іхнія сябры і родныя агледзелі месца, дзе, як лічыцца, былі выкрадзеныя В.Ганчар і А.Красоўскі. Каля выезду з аўтастаянкі, размешчанай каля лазні, былі знойдзеныя асколкі разбітага шкла, плямы, падобныя на кроў, а таксама тармазны след аўтамабіля і сляды чырвонай фарбы на кустах. На думку блізкіх, аўтамабіль чырвонага колеру мог рухацца наперарэз «Джыпу-Чарокі», на якім ад'язджалі ад лазні В.Ганчар і А.Красоўскі.

Як паведаміла жонка В.Ганчара Зінаіда, супрацоўнікаў упраўлення ўнутраных спраў Ленінскага раёна Менска, на тэрыторыі якога месціцца лазня, давялося літаральна пад прымусам цягнуць на месца здарэння: яны спасляліся на адсутнасць свабоднага аўтатранспарту і прыбылі ў згаданае месца на пасланым за імі аўтамабілі аднаго з сяброў знікшых. Міліцыянеры ўзялі пробы шкла і плямаў і заявілі, што вынікі аналізаў будуць вядомыя праз 15 дзён. Сябры В.Ганчара і А.Красоўскага таксама ўзялі пробы шкла і плямаў. Паводле ацэнкі аднаго з іх, які добра ведае аўтамабілі падобнага класа, гэта, хутчэй за ўсё, асколкі задняга шкла «Джыпа-Чарокі». З.Ганчар звярнула ўвагу на тое, што паведамленне аб знікненні яе мужа і «правядзенні комплексу неабходных мерапрыемстваў па высвятленні іх месцазнаходжання» было перададзена па Беларускім тэлебачанні 17 верасня ў 19 гадзін, а першыя следчыя дзеянні праваахоўныя органы правялі толькі ў 19.30.

Месца мяркуемага выкрадання вядомых палітыка і бізнесмена наведалі прадстаўнік КНГ АБСЕ Крыстофер Паніка і пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман. Каля 22 гадзін 17 верасня Х.Вінкельман і З.Ганчар прыбылі ў Міністэрства замежных спраў Беларусі. Нямецкі пасол ад імя калег па дыпламатычным корпусе папрасіў дзяжурнага перадаць міністру непаразуменне і заклапочанасць дзеяннямі ўлад, якія на словах заяўляюць пра прыняцце ўсіх магчымых захадаў па пошуку знікшых людзей і пра тое, што А.Лукашэнка кожную гадзіну патрабуе інфармацыю пра праводзімыя вышуковыя мерапрыемствы, а ў сапраўднасці адбываецца наадварот. Зінаіда Ганчар даслала ў пасольствы ЗША і буйнейшых еўрапейскіх краін заявы з просьбай пасадзейнічаць ў пошуках мужа. 18 верасня родныя В.Ганчара і А.Красоўскага перадалі пасольствы вынікі свайго наведвання месца здарэння.

Родныя і сябры В.Ганчара і А.Красоўскага звяртаюцца да ўсіх, хто мае хоць якісьці звесткі пра абставіны іхняга знікнення ў раёне кінатэатра «Ракета», паведаміць пра гэта па сталічным тэлефоне 257-06-95, а таксама на пэйджэр (017) 211-00-00 для абанента 87388. У сваю чаргу Савецкае РУУС Мінска, якое вядзе пошук знікшых дюдзей, праз Беларускае тэлебачанне звярнуўся да грамадзян паведамляць пра існуючыя звесткі па тэлефонах (017) 232-02-02, 227-02-21 або 02.

Нагадаем, што В.Ганчар і А.Красоўскі знаходзіліся на аўтамабілі «Джып-Чарокі» цёмна-вішнёвага колеру, дзяржнумар 5246 МН.

Як стала вядома, разам з В.Ганчаром і А.Красоўскім у лазню павінен быў адправіцца дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Валерый Шчукін, аднак яго затрымалі справы.

**Дзмітрый Уласаў**

# Беларуская сіла ў палітычнай арганізацыі

Таму я прымаю захады, якія не супярэчаць Статуту Партыі і адпавядаюць рашэньням яе ворганаў. Зьезд Партыі БНФ павінен адбыцца згодна чэрвеньскага Сойму Партыі БНФ, якое ня выканаў спадар Л.Баршчэўскі і не адчыніў Зьезд 31 ліпеня - 1 жніўня гэтага году.

У Статуце Партыі ня сказана, што Сойм прызначае дату Зьезду. Гэта ўмоўнае пытаньне. Таму, калі ёсьць рашэньне аб Зьезьдзе, дату (пасьля кансультацыяў) можа прызначыць старшыня. Гэта не супярэчыць Статуту. Дзеля вызначэньня даты няма патрэбы спэцыяльна зьбіраць Сойм. Зьезд Партыі адбудзецца 26-га верасьня. Гэта павінен быць мацуючы, яднаючы Зьезд з пэрспэктывай згуртаванага адзінства Фронту.

## Ад зьмесьце структураў

Кіруючы ворган палітычнай арганізацыі - гэта не парлямант. Кіруючыя структуры партыі фармуюцца не на прынцыпе парляманцкай дэмакратыі, а на прынцыпе палітычнага адзінства. Калі палітычнага адзінства няма (як гэта здарылася з Соймам БНФ у 1998-1999 гг.), тады ўзнікае крызіс у кіраўніцтве і кіраваньні, параліч альбо раскол у арганізацыі.

Трэба імкнуцца, каб кіраўніцтва было палітычна адзіным. Бо нават калі ідэйна маналітная арганізацыя будзе мець распалавіненае кіраўніцтва -яна рана ці позна расколецца. Гэтак здарылася з БНФ. Нельга падтрымліваць прынцып існаваньня распалавіненага, дыскусійна-антаганістычнага Сойму і такога ж інстытуту намесьнікаў старшыні. Гэта адмоўна адбіваецца на арганізацыі. Патрэбна было істотнае абнаўленьне і ўгрунтаваньне кіраўніцтва на агульнай плятформе.

Я пастараўся ажыцьцявіць гэтае неабходнае рашэньне на VI-м Зьезьдзе БНФ, прапанаваў неантаганістычны сьпіс Сойму і новых намесьнікаў. Але было ўжо позна. І справа не ў тым, што шмат хто блытае палітычны, партыйны прынцып фармаваньня кіраўніцтва з парляманцкім. Справа ў тым, што адзінага Фронту ўжо не было. І кожны на Зьезьдзе хацеў бачыць у Сойме «сваіх». Гэта факт, гэта відавочнасьць. Прызнаймася ў гэтым і ўбачым, што мае структурныя пошукі і прапановы аб новым адзінстве Фронту ёсьць правільныя.

## Аб канцэптуальнай палітыцы

Як і якую палітыку праводзіць у дачыненьні да Беларусі Масква, да чаго яна імкнецца, як і чаму хоча зьнішчыць беларускі нацыянальна-вызвольны рух і што можна чакаць ад яе цяпер - прапаную прааналізаваць кожнаму фронтаўцу. Думаю, што ніхто ў аналізе й ацэнках не памыліцца, бо ўсё відавочна.

Адзначу, аднак, што ў барацьбе з аўтарытарным нелегітымным рэжамам і ўзурпатарам трэба, акрамя дэманстрацыі партыйнай палітыкі, ствараць легальныя структуры ўлады (мясцовай, грамадзкай, прадстаўнічай ды інш.). Трэба ствараць структурныя апоры для палітыкі ды альтэрнатыву ў грамадзтве любымі легальнымі спосабамі (нават фантомы могуць стацца карыснымі ў гэтай сітуацыі).

За тры гады дыктатуры ўдалося ўмоўна «стварыць» толькі адну такую структуру - аб'яднаць групу дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня ў апазыцыйны парлямант. Дзякуй Богу, С.Шарэцкі тут зрабіў тое, што ад яго залежала. Гэта дало магчымасьць наладзіць кантакты з заходнімі парляманцкімі структурамі і ўрэшце рэшт - дапамагло беларускім патрыётам працаваць тут на Захадзе, а Захаду - не прызнаць рэжым Лукашэнкі. Захад, яго парляманты і ўрадавыя структуры не маглі кантактаваць зь беларускімі палітычнымі партыямі і праз іх уплываць на рэжым. Гэта ня тая дарожка. Патрэбны быў легальны міжнародна прызнаны шлях. Такім шляхам стаў легальны апазыцыйны «парлямант».

Я прапанаваў і падтрымліваў ідэю стварэньня апазыцыйнага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, цудоўна разумеючы яго дрэннасьць у лёсе Беларусі і здрадлівасьць у беларускай палітыцы (пра што ўвесь час нагадваў). Тым ня менш, так трэба было зрабіць, каб выйграць у іншым. І справа сябе апраўдала.



Ідэі ўсталяваньня грамадзянства БНР, стварэньне Камітэтаў грамадзянаў БНР і ворганаў самакіраваньня, збор подпісаў за адхіленьне Лукашэнкі ад улады, стварэньне Грамадзянскага Парляманту й Часовага Ўраду - усё гэта ланцужок адзінай палітычнай нацыянальна-вызвольнай працы, якую я прапаноўваў і якая павінна была прывесьці да стварэньня дапаможных структураў улады, і асабліва - да ўтварэньня Грамадзянскага Парляманту як апоры для Вярхоўнага Савету, для выконваючага абавязкі Прэзыдэнта, як аргуманта пры перамовах і г.д. Грамадзянскі Парлямант Беларусі мог прыняць новы нармальны Закон аб выбарах, стварыць Часовы Ўрад, уплываць і стымуляваць дзейнасьць Вярхоўнага Савету і выконваючага абавязкі Прэзыдэнта, узьдзейнічаць на стварэньне законнага ўраду і г.д. Існаваньне Грамадзянскага Парляманту было б аргумантам у палітыцы, давала б магчымасьць манэўру і нават -альтэрнатывы.

Усё змарнавалі канфармісты. Надыйшоў дзень 20-га ліпеня 1999 года - нічога не стварылі. Нічога не было. Нават загад аб арышце Лукашэнкі выдаць няма каму. Колькі можна быць няздольнай апазыцыяй!

Калі стварыць альтэрнатыўныя структуры, калі мець легітымных асобаў улады і ўвогуле - грамадзкую альтэрнатыву, то пры ўзрастаньні масавых пратэстаў (масавыя забастоўкі, мітынгі, дэманстрацыі) ліквідаваць антыдэмакратычны рэжым можна рэальна, мірна, і нават без безбалесна (для грамадзтва). Калі гэта не падрыхтаваць, то шанцы мізэрныя, а мірных - наогул няма.

Не падрыхтаваўшы ўмоваў і апоры, без палітычнага пляну, зразумелага ўсім, без канцэпцыі пераймання ўлады, без наяўнасьці рэальнай альтэрнатывы (а не словаблудзтва) марна клікаць азлоблены народ на вялікі масавы выступ. Перамогі ня будзе. Пасьля выпусканьня пары «ў сьвісток) - апатыя й расчараваньне. Усялякая справа патрабуе падрыхтоўкі, сэнсу, мэты і ажыцьцяўленьня.

Мне вельмі шкада, што мае стараньні наладзіць канцэптуальную палітыку Фронту ў 1998-1999 гадох былі спушчаны ў пясок. Трэба, як найхутчэй, прывесьці Партыю БНФ і ўвесь Фронт у дзейсны, рабочы, палітычна актыўны стан. Мы павінны арганізаваць неабходныя грамадзкія структуры і адначасна рыхтаваць масавыя выступы супраць рэжыму. Апроч таго, я лічу, што Фронт, які прызнае Канстытуцыю 1994 году і падтрымаў дрэнны, але легітымны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, павінен цяпер засьведчыць падтрымку старшыні Вярхоўнага Савету і выконваючаму абавязкі Прэзыдэнта Сымону Шарэцкаму, які стаіць на беларускіх, нацыянальна-дэмакратычных пазыцыях вызваленьня ад дыктатуры і зьяўляецца адзінай законнай і поўнасьцю легітымнай кіруючай фігурай у вышэйшай беларускай уладзе.

Падтрымайма Зьезд Партыі БНФ і аб'яднаны Фронт. Пойдзем крок за крокам. Мы ня можам марнаваць час, бо над Бацькаўшчынай - небясьпека. Мы павінны йсьці мэтанакіравана, каб узьняць беларускі арганізаваны адраджэнцкі рух і беларускую палітыку.

Трэба ўмацоўваць нацыянальна-вызвольны Фронт, чаго гэта ні каштавала і як бы цяжка яно ні вялося. Трэба мець палітычную арганізацыю беларускага адраджэньня, зь якой будуць лічыцца ўсе. Трэба ствараць сілу, каб сьцьвердзіць ідэю, адрадзіць, збудаваць Беларусь!

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне»**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# З хворай галавы на здаровую!

**26 жніўня ў ПАГОНІ (N52) быў надрукаваны артыкул нашага карэспандэнта Паўла Мажэйкі «Мама, дай булачку...». Размова ў ім ішла пра стыхійны страйк, што ўзнік у сувязі з затрымкай заробку на гарадзенскім сумесным прадпрыемстве па перапрацоўцы крэветак ТАА «Альформа».**

Днямі рэдакцыя ПАГОНІ атрымала ліст. Праўда, без подпісу, але зроблены на фірмовым бланку СП ТАА «Альформа» і змацаваны пячаткай «Для договоров». Як паведамляецца ў лісце, нарадзіўся ён «как результат возмущения клеветой, вышедшей из-под пера П.Мажейки...»

Аўтары ліста адзначаюць, што пасля публікацыі матэрыялаў пра страйк галандскія партнёры СП ТАА «Альформа», магчыма, часова спыняць пастаўкі сыравіны «из опасений за бактериологическое качество продукции, так как любые социальные потрясения неизменно влекут за собой нарушение технологии производства».

З дадзенага ліста вынікае, што пад «социальными потрясениями» аўтары ліста разумеюць тое, што «инцидент получил широкое освещение в прессе, и проблемой двухнедельной задержки заработной платы занималась чуть ли не вся «вертикаль». А вінаватая ў гэтым, паводле аўтараў ліста, не кіраўніцтва «Альформы», якое затрымлівае заробак сваім працоўным, а журналіст ПАГОНІ, які выконвае свае прафесійныя абавязкі - інфармуе насельніцтва.

«За что и скажем спасибо П.Мажейке - 500 человек рискуют остаться без работы лишь потому, что он погнался за скандальным материалом...» - паведамляецца ў лісце. На наш погляд, кіраўніцтва «Альформы» знайшло вельмі выгадны спосаб - як зваліць праблему з хворай галавы на здаровую. І гэта не адзіны прыклад такога перакладвання, пры якім спрэчка з ПАГОНЯЙ ідзе не па сутнасці, а па дробязях, якія нічога не вызначаюць. Да прыкладу, асаблівая ўвага ў лісце скіравана на тое, што П.Мажэйка быццам бы ілжыва інфармуе чытачоў пра 20-30 дзён затрымкі заробку. Аўтары ліста з дапамогай арыфметыкі вылічваюць, што затрымкі заробку былі зробленыя два разы: першы раз на 20 дзён (з 18 ліпеня па 9 жніўня), другі раз - на 13 дзён (з 18 жніўня па 1 верасня)...

Шаноўныя спадары невядомыя аўтары ліста! Хочацца Вам нагадаць, што наш журналіст узяў гэтыя 20-30 дзён не са сваёй галавы, а з ліста, які работніцы «Альформы» накіравалі ў камітэт Дзяржкантроля па Гарадзенскай вобласці. І падпісаны быў гэты ліст больш як 300 жанчынамі. Няўжо Вы хочаце выкрыць гэтых жанчын у хлусні? І не трэба абвінавачваць ПАГОНЮ ў распаўсюджванні «сплетен» ды «непроверенных слухов». Вы затрымалі заробак жанчынам на 20 дзён, і хочаце, каб яны маўчалі і не мелі права змагацца за зароблене ўласнымі рукамі. Дырэктару «Альформы» А.Савасцьянаву супрацоўніцы накіравалі некалькі лістоў з просьбай разабрацца. Але адказу не было. І жанчыны знайшлі выйсце - прыйшлі ў ПАГОНЮ... У выніку, «як бачым», «чуть ли не вся «вертикаль» занималась проблемой двухнедельной задержки заработной платы».

...Паважаныя спадары ананімшчыкі! Хопіць займацца «журналістыкай»: звярніце лепш увагу на тое, у якіх умовах працуюць Вашы людзі і які жабрацкі заробак яны атрымліваюць! Прычым - несвоечасова!!! Калі Вы не на словах, а на справе выправіце становішча на «Альформе», ПАГОНЯ будзе першай, хто паведаміць пра гэта. Ва ўсякім разе, гэта будзе больш удзячнай для Вас справай, чым пісаць неабгрунтаваныя абвяржэнні.

Рэдакцыя

# Мастак не хоча быць галодным

**У галерэі «У Майстра» прадстаўлена графічная выстава Ігара Варкулевіча.**

Ігар працуе па спецыяльнасці «прамысловы дызайн» у маскоўскім рэкламным агенцтве «New generetion». На выставе паказаны ўвесь спектр дзейнасці мастака: рэкламныя плакаты, рэкламныя відэаролікі і, разам з тым, цудоўныя графічныя карціны. У працоўным актыве Ігара як арт-дырэктара агенцтва - рэклама самых розных тавараў сучаснага рынку: маніторы LG, фотаапараты Polaroid, радыятары сухога ацяплення і нават гарэлка. Некаторыя з ролікавых шэдэўраў праходзілі па ГРТ, РТР у выкананні тэатра гумару «Маскі».

Відэаролікі (нягледзячы на тое, што некаторыя ігнаруюць іх культурную каштоўнасць) маюць дачыненне да візуальнага мастацтва XXI стагоддзя. Гэтая форма, утрымліваючы шмат інфармацыі ў малым аб'ёме, хутка і дакладна перадае гледачу мастацкія ідэі.

Карціны паказваюць творчыя магчымасці Ігара Варкулевіча зусім з іншага боку. Гэта - тое, чаго патрабуе душа ў «вольны ад працы час». Тут адсутнічаюць нейкія індустрыяльныя матывы. У мастацтве аўтара прыцягваюць найперш натуральныя формы. Жаночы сілуэт, мяккія лініі, прыглушаныя колеры графікі не атакуюць увагу. Наадварот, размытасць кампазіцыі, «незакончанасць» выяваў адкрываюць багатыя магчымасці «дадумаць» твор падчас адпачынку.

Пасля заканчэння строганаўскага вучылішча Ігар Варкулевіч застаўся працаваць у Маскве, аднак ён называе сваёй радзімай горад Гродна. Пяць гадоў таму ў галерэі «У Майстра» была першая выстава мастака. Працяг выставачнай дзейнасці быў у Маскве на Кузнецкім мосце, у галерэі «Art Pand» ды іншых залах. На вернісажы гаспадыня галерэі Ірына Сільвановіч сказала: «Я лічу, што Ігар наш, беларус і, можна сказаць, гэтым ганаруся».

На вечарыне Ігар вылучаўся малагаваркой сціпласцю. На пытанне «як можна знайсці добрую працу ў Маскве», адказаў: «Добра вучыцца і пачынаць наладжваць сувязі, не баяцца працы». Вось такі просты рэцэпт маскоўскай славы.

Наогул, атмасфера вернісажа ў «самай эстэцкай» галерэі горада гэтым разам была дэмакратычнай. Пацягвалі піва, аглядалі ролікі і графіку. Словам, з густам бавілі час і знаёміліся з навінкамі сучаснага мастацтва.

Алена Сіневіч



Ігар Варкулевіч з бацькамі (справа)

# У Германію на стажыроўкі!

**Амбасада Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь сумесна з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь паведамляюць, што Нямецкая служба акадэмічных абменаў (ДААД) аб'яўляе конкурс для беларускіх навукоўцаў, выпускнікоў і студэнтаў вышэйшых навучальных установаў на суісканне стыпендыяў для стажыроўкі ва універсітэтах Германіі ў 2000-2001 годзе.**

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца асобы, якія валодаюць нямецкай мовай:

1) асобы, узрост якіх не перавышае 32 гады, хто мае вышэйшую адукацыю і займаецца навуковай і выкладчыцкай дзейнасцю ў вышэйшых навучальных і навуковых установах па ўсіх навуковых дысцыплінах, уключаючы музыку і выяўленчае мастацтва (стыпендыя на тэрмін да 10 месяцаў);

2) студэнты-германісты 2-4 курсаў (стыпендыя на тэрмін да аднаго семестра);

3) студэнты-эканамісты 3 курса (стыпендыя на тэрмін да 10 месяцаў);

4) студэнты 3-4 курсаў і выкладчыкі нямецкай мовы, узрост якіх не перавышае 32 гады (летнія курсы нямецкай мовы);

Акрамя таго, прапануюцца 3-4-тыднёвыя летнія курсы для студэнтаў, якія вывучаюць дысцыпліны, што маюць адназначнае дачыненне да Германіі.

5) Асобы, узрост якіх не перавышае за 32 гады, хто мае вышэйшую адукацыю і займаецца даследчай работай па ўсіх навуковых дысцыплінах (стыпендыя на тэрмін да 6 месяцаў), веданне нямецкай мовы не абавязковае;

6) Навуковыя супрацоўнікі (без абмежавання ўзросту), якія маюць навуковую ступень, займаюцца навуковай і даследчай дзейнасцю ў вышэйшых навучальных і навуковых установах па ўсіх навуковых дысцыплінах (стыпендыя на тэрмін 1-3 месяцы).

Усім кандыдатам на атрыманне стыпендыяў па праграмах 1-4 неабходна прайсці тэст на веданне нямецкай мовы.

Для таго, каб прайсці вышэйўзгаданы тэст, неабходна звярнуцца адпаведна запісу да спадарыні Сабіны Бранеске, лектару ДААД.

Кансультацыі праводзяцца кожную сераду з 9.00 да 10.20 у Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, ауд. В400 (Менск, вуліца Захарава, 21; ст. метро «Плошча Перамогі».

Кансультацыі спадарыні Уты Купплер, лектара ДААД, праводзяцца штопанядзелак з 17.00 да 18.20 на кафедры лексікалогіі нямецкай мовы ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (корпус А, 4-ы паверх).

Прыём дакументаў, за выключэннем праграмы 3, заканчваецца 1.12.1999 года. Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве адукацыі і ў лектараў ДААД.

По бланкі заяваў і дадатковую інфармацыю звяртайцеся на адрас:
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь,
Менск, вул. Свярдлова, 7, пакой 206,
сп. Ціханаў В.Ю., тэл. 226-49-75,
сп. Белаусаў М.Ю., тэл. 226-44-84.

Прадстаўленне праграмаў ДААД адбудзецца 28.09.1999 года ў актавай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, у вучэбным корпусе II (Менск, вуліца П.Броўкі, 4; станцыя метро «Акадэмія навук»).

# Саюз палякаў дагэтуль не перарэгістравалі

**16 верасня Мінюст у трэці раз адмовіў у перарэгістрацыі Саюза палякаў Беларусі. СПБ застаецца адзінай арганізацыяй польскай меншасці ў Беларусі, якая яшчэ не прайшла перарэгістрацыю.**

Паводле словаў начальніка ўпраўлення Мінюста Міхаіла Сухініна, СПБ «не жадае ліквідаваць заўвагі па статуце».

У статуце СПБ адной з асноўных задачаў дзейнасці арганізацыі з'яўляецца стварэнне дзіцячых садкоў, школаў, ліцэяў. На думку Міністэрства адукацыі і Мінюста, грамадскія аб'яднанні не маюць права ствараць навучальныя ўстановы, гэта ёсць прэрагатыва Міністэрства адукацыі.

Не мае, высвятляецца, СПБ і права «садзейнічаць адкрыццю ў Гродне ВНУ з польскай мовай навучання». Бо згодна з законам «Аб мовах», выкладанне ў ВНУ павінна весціся толькі па-беларуску ці па-руску.

За каментарам дадзенага рашэння Мінюста ПАГОНЯ звярнулася да **старшыні СПБ Тадэвуша Гавіна**.

- Гэта гвалт над арганізацыяй, гэта імкненне да таго, каб абмежаваць нашу дзейнасць. Мінюст лічыць, што мы можам абараняць правы толькі сяброў СПБ, а не ўсіх палякаў, якія жывуць у Беларусі. Аднак мы пайшлі на ўнясенне ў статут усіх заўвагаў, для нас галоўнае - перарэгістравацца. Праўда, пайшлі неахвотна, таму што гэта ставіць нас у рамкі і не дазваляе браць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Беларусі.

***- Спадар Гавін, якая ўсё ж такі, на Вашу думку, галоўная прычына чарговай адмовы СПБ у перарэгістрацыі?***

- Я думаю, наогул, улады не хочуць адраджэння сярод палякаў у Беларусі. А галоўным рухавіком у гэтым адраджэнні з'яўляецца Саюз палякаў...

***- Тэрмін перарэгістрацыі заканчваецца 24 верасня. Як СПБ будзе дзейнічаць напярэдадні гэтай даты?***

- Я ўпэўнены, што нас павінны перарэгістраваць. У іх папросту няма падставаў у адмове. За год мы не мелі ніводнага папярэджання ад Мінюста.

**Аднак, як стала вядома ПАГОНІ, хэпі-энда можа і не быць. Справай Саюза палякаў, адпаведна некаторым дадзеным, займаліся асабіста такія спецыялісты ў галіне нацыянальных адносінаў, як віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін і Марыя Бірукова з Гарадзенскага аблвыканкама. Ужо сам па сабе гэты факт наводзіць на сумныя думкі адносна перспектываў у справе перарэгістрацыі вядомай і аўтарытэтнай арганізацыі...**

Павал Мажэйка

# Тэатр лялек ужо паўналетні

**У нядзелю Гарадзенскі тэатр лялек распачаў свой новы, 18-ы сезон.**

Раніцай паказвалі «Казкі пра цара Салтана». Аднак асноўнае дзейства прызначалася на вечар. ГТЛ запрасіў сваіх гледачоў на спектакль з працягам: спачатку - візітоўка тэатра «Тутэйшыя», потым - вечар сустрэчаў з гледачамі.

На пачатак спектакля перад гледачамі выступілі гарадскія тэатральныя знакамітасці: рэжысёр тэатра лялек Мікалай Андрэеў, дырэктар Аляксандр Ігнаценка і актрыса тэатра драмы, заслужаная артыстка Беларусі Алена Гайдуліс. Спадар Андрэеў жартаваў з нагоды «паўналецця» тэатра: «Калі нам споўнілася 18 - дык нас ужо можна судзіць. Я маю на ўвазе суд гледачоў...».

На суд гледачоў была вынесена неўміручая купалаўская п'еса «Тутэйшыя». Напісаная ў 1922 годзе, яна дакладна ілюструе наша сённяшняе жыццё. У пастаноўцы рэжысёра Мікалая Андрэева п'еса ператварылася ў «трагічна-смяшлівыя сцэны». Зоркі тэатра лялек Віктар Шалкевіч, Аляксандр Ігнаценка, Тамара Лобан і Юрый Мянько разам са сваімі персанажамі-лялькамі лёгка вымушалі гледачоў змяняць смех на слёзы і наадварот. Музыку да спектакля напісаў Сяргей Бельцюкоў, мастацкае афармленне Ларысы Гарлаван.

Нягледзячы на тое, што амаль адначасова з адкрыццём сезона ў лялечнікаў у Гродне пачаліся гастролі Нацыянальнага тэатра оперы, тызенгаўзаўская зала сабрала аншлаг. А пасля фінальнай сцэны артысты атрымалі ўдзячныя авацыі.

Па заканчэнні прадстаўлення адбылася вечарына - сустрэча тэатралаў з акторамі. Апрача гарадзенцаў, актыўны інтарэс да закулісных сакрэтаў тэатра выказалі студэнты з Гданьска. Як вядома, песні В.Шалкевіча папулярныя ў Польшчы. Гэта яшчэ раз пацвердзілася падчас міні-канцэрта артыста, які выконваў свае песні, мабыць, спецыяльна для гасцей, на польскай мове з дамешкаю яўрэйскага фальклору. Паэт і супрацоўнік тэатра Юры Гумянюк чытаў свае вершы. Ён, дарэчы, стаўся адзіным, хто перанёс беларускую мову з тэатральных падмосткаў, так бы мовіць, у жыццё. Акрамя купалаўскіх «тутэйшых» і паэта амаль ніхто не гаварыў па-беларуску. Гледачы перажывалі-перажывалі за няшчасны лёс Беларусі, за сіроцкую долю роднай мовы... Але мастацтва і жыццё гавораць кожны па-свойму.

Новы сезон тэатра лялек рыхтуе прыемныя сюрпрызы: вечары сустрэчаў з акторамі і майстрамі іншых мастацтваў плануецца праводзіць пасля кожнага вечаровага спектакля.

Алеся Макоўская

# Конкурс памяці Шапэна ў Гродне

**Вызначыўся склад удзельнікаў музычнага фартэпіяннага конкурсу памяці Фрыдэрыка Шапэна, які будзе праводзіцца ў Гродне (не блытаць са знакамітым Варшаўскім) 3-7 лістапада. Заснавальнікамі конкурсу выступілі Гарадзенскае музычнае вучылішча, суполка «Польска Мацеж Школьна» і фірма «BelЕРТА».**

Для ўдзелу ў конкурсе запрашаліся вучні ад 14 да 19 гадоў. Сваіх канкурсантаў накіравалі ўсе вобласці Беларусі, сталіца краіны. Чакаюцца госці з Беластоку і Варшавы. Гарадзенскае і Лідскае вучылішчы прадстаўлены трыма вучнямі кожнае, акрамя таго гарадзенцы праводзяць адбор яшчэ аднаго кандыдата.

Дастаткова прадстаўніча выглядае склад журы. «Судзіць» удзельнікаў конкурсу будуць Ю.Гільдзюк, мастацкі кіраўнік нацыянальнай філармоніі, І.Алоўнікаў - прафесар Беларускай Акадэміі Музыкі, В.Рачкевіч, прафесар Варшаўскай Акадэміі Музыкі, іншыя вядомыя педагогі ды выканаўцы.

Лаўрэаты конкурсу атрымаюць узнагароду ў $100, $70 і $50 за першыя тры месцы. Сума прэміі не выглядае ўнушальнай, таму аматары класічнай музыкі ўвогуле і Шапэна ў прыватнасці, здольныя стаць спонсарамі, могуць звярнуцца ў аргкамітэт конкурсу ў Гарадзенскім музвучылішчы.

Б.Касталян

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Час пік: 20 верасня

**Беларускаму рублю, відаць, наканавана доўгае жыццё. Візіт на Беларусь Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі спадара Ул.Пуціна ўнёс канкрэтыку ў мяркуемае «аб'яднанне» расейскага і беларускага рубля: у бліжэйшыя два гады такога яднання дакладна не будзе, у перспектыве мо да 2003-2008 году працэс пойдзе. Аднак куды і як - невядома.**

Такое вось несуцяшальнае паведамленне давялося выслухаць беларускім уладам ад Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі. На жаль, для Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь не ўдалося спісаць чакаемы крах беларускага рубля на расейскага сабрата. У тым жа, што беларускі рубель значна «схуднее» ў бліжэйшы месяц і што такі крах адбудзецца, не сумняваўся б нават Астап Ібрагімавіч Бэндэр. Бо ў адрозненне ад чалавека, які адчувае на сабе атмасферны ціск чыста фармальна, на беларускі рубель ў верасні ціснуць ажно дзесяць эканоміка-палітычных рычагоў без ніводнай (на жаль) залатой гіры.

Калі ж надыдзе час пік? Як лічаць вядучыя эканамісты аналітычнага




цэнтра «Рынкавая эканоміка» - у 20-ыя чыслы. 60 працэнтаў - «за» верасьнёўскія, 40 працэнтаў - «за» кастрычнікія. «Чаму менавіта 20-ыя чыслы?» - спытаеце вы. Справа ў тым, што менавіта дваццатае чысло месяца - гэта заўсёды змяненні ў палітыцы Нацыянальнага банка, гэта авансы і заробкі большасці працуючага насельніцтва, гэта блізкасць да «чорных» аўторкаў і пятніц 17-га і 19-га чысла і г.д. Прычыны рэзкага падзення беларускага рубля, якое чакаецца бліжэйшым часам, эканамісты Цэнтра вылучылі наступныя:

1) адсутнасць якісных карэнных эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы. (Гэта - галоўная прычына);

2) 65-працэнтнае павелічэнне эмісіі Нацыянальным банкам на пачатак верасня, напрыканцы года замест 35 трыльёнаў рублёў - 70 трыльёнаў;

3) ліпеньска-жнівеньская «бескарыслівая» дапамога паміраючаму аграпрамысловаму комплексу;

4) рэальнае зніжэнне асноўных макраэканамічных паказчыкаў па выніках работы ў бягучым годзе;

5) найбольш няўдачны год па інвестыцыях у эканоміку рэспублікі;

6) амаль 18-працэнтная месячная інфляцыя (адпаведна афіцыйным крыніцам -9-10 працэнтаў у месяц);

7) перавышэнне імпарту над экспартам і зніжэнне тавараабароту з Расійскай Федэрацыяй;

8) больш чым 600-мільённая (у далярах ЗША) запазычанасць Рэспублікі Беларусь за газ, нафту і энерганосьбіты, а ў сувязі з гэтым - вялікі попыт на даляры, маркі і г.д. з боку Нацыянальнага банка (тавары замест валюты Літва і Расія браць ужо не хочуць);

9) досыць вялікі недавер да беларускага рубля з боку грамадзянаў рэспублікі і нерэзідэнтаў;

10) летняя стабільнасць курса з-за зніжэння дзелавой актыўнасці ўжо скончылася... (сярэдзіна верасня).

Мы ж у сваю чаргу можам дадаць:

1) павышэнне з першага кастрычніка мінімальнага заробку і стаўкі першага разраду;

2) увядзенне ў абарачэнне 5-мільённай банкноты;

3) магчымае зніжэнне стаўкі рэфінансавання і як вынік -адток значнай масы грошай (беларускіх рублёў) з банкаў краіны на канвертаванне;

4) павелічэнне эмісіі Нацыянальным банкам для выканання сваёй жа тэлеграмы N31-20/5757 ад 1.09.99 г.

(Справа ў тым, што ўстаноўлены новы парадак куплі-продажу замежнай валюты на ўнутраным валютным рынку Беларусі. Прадпрыемствы абавязаны прадаваць 30 працэнтаў экспартнай выручкі па афіцыйнаму курсу, а астатнія - па жаданню - з каэфіцыентам 1,5. Аднак самае цікавае, што адзіным пакупніком валюты на дадатклвай сесіі з'яўляецца Нацыянальны банк, ён жа падтрымлівае і афіцыйны курс. Выснова: Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь на кожны куплены даляр, марку і г.д. на дадатковай сесіі вымушаны будзе дадрукаваць 50 працэнтаў неабходнай, адсутнай сумы (ад афіцыйнага курса), каб не стаць канчатковым банкрутам);

5) вернемся да пачатку артыкула - «яднання» дзвюх «брацкіх» валют у гэтым стагоддзі не адбудзецца.

Такім чынам, перспектываў утрымацца бліжэйшымі днямі на старых пазіцыях у беларускага рубля амаль няма, да 20 кастрычніка - папросту няма. Прычым як на афіцыйным ўзроўні (курсе), так і на дадатковай сесіі, рынкавым наяўным і рынкавым безнаяўным курсе, а таксама на нерэзідэнцкім валютным рынку. Беларусаў чакае чарговая, нібы неафіцыйная, дэвальвацыя нацыянальнай грашовай адзінкі.

**Максім Жмінда**

# Геаграфічнае становішча Беларусі не стыкуецца з коштамі на нафтапрадукты

**Рэспубліка Беларусь знаходзіцца на сярэдзіне шляху транзіту нафты і газу Расійскай Федэрацыі ў Заходнюю Еўропу, перш за ўсё ў Германію.**

З высокаразвітых дзяржаваў Заходняй Еўропы ў Расію «вяртаюцца» шматлікія тавары, і зноў праз Беларусь. Што з гэтага мае наша рэспубліка, нашы грамадзяне?

Ні ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год» (як і на 1998 год), ні ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай класіфікацыі Рэспублікі Беларусь» ад 5.05.1998 года немагчыма прасачыць адным радком «даходы за транзіт» для нашай рэспублікі. Аднак, можа, дзяржаўныя органы вядуць досыць правільную эканамічную палітыку, і яе вынікам з'яўляюцца сапраўдныя выгады для грамадзянаў Рэспублікі Беларусь?

Давайце «разбярэмся» з транзітам нафты і газу, а больш канкрэтна - з беларускімі тарыфамі за транспарціроўку. Як нам стала вядома, за 100 тона-кіламетраў Беларусь мае 0,4 даляра ЗША (па накірунку Украіна, Польшча, Германія, Францыя) і 0,53 даляра ЗША (у накірунку Украіна, Венгрыя ці Славакія, Чэхія). Для параўнання прывядзем тарыфы нашых суседзяў:

Латвія - 0,66 даляра ЗША за тона-кіламетр;

Літва - 0,99 даляра ЗША за тона-кіламетр;

Украіна - 0,72 даляра ЗША за тона-кіламетр.

Такім чынам, «транзітныя даходы» за транспарціроўку адной умоўнай адзінкі (не блытаць з далярам ЗША) у Рэспубліцы Беларусь ніжэй, чым у суседзяў прыблізна аж на 80 працэнтаў... Мо нафтапрадукты нашы грамадзяне купляюць больш танна? Ды не. Цэны на бензін у нас у рэспубліцы ўжо вышэйшыя, чым на Украіне і ў Літве!!!

Цяпер вось Савет Міністраў вырашае пытанні зімоўкі краіны. І раптам ва ўрадзе ўсе даведаліся, што мазут для беларусаў у расіянаў падаражэў болей чым у два разы за апошнія сто пяцьдзесят дзён. Але гэта яшчэ не ўсё! Падчас апошняга свайго візіту ў Расійскую Федэрацыю С.Лінг даведаўся аб прапановах Расіі параўнаўча (істотна) знізіць тарыфы да 0,27-0,3 даляра ЗША за тона-кіламетр. Вось гэта ўжо - суперпрапанова! Атрымліваецца, яднанне-яднаннем, а грошы -асобна. Асабліва, калі ўлічыць, што расейскія спажыўцы купляюць нафтапрадукты ў два разы танней, чым беларускія.

Вынік. Праз год кошты на бензін у Беларусі ў чарговы раз значна вырастуць, а расіяне ўсё-ткі знізяць тарыф. Такая ў нас выснова; пры добрым геаграфічным становішчы краіны, прынамсі, пры сённяшнім палітычным рэжыме. Беларусь так і будзе заставацца донарам «бясплатнага» транзіту ці ўрэшце рэшт - не?!

**Кацярына Зволін**

# Сапраўдныя поспехі...

**Беларусь ужо не на апошнім месцы па ўзроўню сярэднемесячнага заробку ў Еўропе.**

Мы ўжо наперадзе Албаніі і амаль на ўзроўні Расійскай Федэрацыі ды Малдовы. Калі працэс пойдзе, то да сакавіка 2000 Беларусь па ўзроўню сярэднемесячнага заробку знікне з апошніх трох месцаў, «прызавых» месцаў з канца спісу.

У адным з бліжэйшых нумароў мы больш падрабязна пазнаёмім чытачоў ПАГОНІ з поўным «еўрапейскім спісам». Таксама разважаем пра чарговае павышэнне сярэднемесячнага заробку ў Рэспубліцы Беларусь і што можа прынесці для Беларусі бясконцы працэс павышэння «мінімалкі». 1 450 000 беларускіх рублёў - гэта многа ці мала?

Наогул, чытайце артыкул у адным з бліжэйшых нумароў ПАГОНІ: «Нулямі ў «мінімалцы» сям'ю не накорміш».

**Сяргей Міронаў**

# Курсы валют

**На 22 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 287.000 беларускіх рублёў; еўра — 298.451,30; нямецкая марка — 152.595,73; расійскі рубель — 11.320. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 22 верасня даляр куплялі па 490.000—495.000 і прадавалі па 500.000—505.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

***На мінулым тыдні (13—19 верасня) курс даляра ЗША да беларускага рубля ўзрос толькі на некаторых сегментах валютнага рынку краіны. Лідарам росту стаў курс даляра да безнаяўнага рубля на пазабіржавым рынку — 1,6 працэнта (з 620.000—660.000 да 630.000—670.000 рублёў).***

***На асноўнай гандлёвай сесіі Беларускай валютна-фондавай біржы даляр ЗША падаражэў на 0,7 працэнта (з 284.000 да 286.000 рублёў), расійскі рубель — на 1,9 працэнта (з 11.050 да 11.260 рублёў). Нямецкая марка патаннела на 0,7 працэнта (з 152.770 да 151.750 рублёў), еўра — на 0,6 працэнта (з 298.770 да 296.870 рублёў). На дадатковай гандлёвай сесіі, дзе курсы ў 1,5 раза перавышаюць курсы валют на асноўных таргах, паводле вынікаў тыдня каціроўка даляра ЗША склала 429.000 рублёў, нямецкай маркі — 227.620, расійскага рубля — 16.890, еўра —445.300.***

***На «чорным» рынку наяўнай валюты курс даляра не змяніўся (480.000—485.000 рублёў пры куплі, 490.000—495.000 рублёў пры продажы). Не змяніўся і курс даляра ЗША ў абменных пунктах камерцыйных банкаў (315.000—320.000 рублёў пры куплі, 340.000 рублёў пры продажы). З пачатку месяца пазабіржавы курс даляра ЗША павялічыўся на 14,5 працэнта, біржавы — на 2,1 працэнта, «чорны» наяўны — знізіўся на 1 працэнт, банкаўскі наяўны — не змяніўся.***

***Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўлівае Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі, знізіўся за мінулы тыдзень на 1,1 працэнта (з 25,70 да 25,41 рубля), з пачатку месяца — узрос на 2,7 працэнта.***

**Дзмітрый Уласаў**

# «Мінімалкі» стала больш

**Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб павышэнні мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі першага разрада». 1 кастрычніка 1999 года, згодна з пастановай, мінімальная заработная плата (МЗП) устанаўліваецца ў памеры 1 мільёна 450 тысяч рублёў, тарыфная стаўка першага разрада — 3 мільёны рублёў для аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы.**

Штомесячная даплата работнікам бюджэтнай сферы, што маюць кваліфікацыю з 1 па 10 разрады, устанаўліваецца ў памеры ад 2 мільёнаў да 100 тысяч рублёў адпаведна. Міністэрствам ды іншым рэспубліканскім органам дзяржкіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, а таксама кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, якія фінансуюцца з бюджэту, дакумент прадпісвае забяспечыць пераразлік зарплаты работнікам, у адпаведнасці з новай тарыфнай стаўкай і каэфіцыентамі адзінай тарыфнай сеткі. Міністэрству сацыяльнай абароны даручана зрабіць у кастрычніку карэкціроўку фактычнага заробку пенсіянераў і адпаведныя пераразлікі працоўных пенсій. 1 кастрычніка 1999 года ў 1,45 раза павялічацца дапамогі па беспрацоўі, пенсіі ды стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійнае навучанне па накіраванні органаў Дзяржаўнай службы занятасці.

Трэба адзначыць, што гэта ўжо трэцяе па ліку павелічэнне МЗП сёлета: ранейшыя павышэнні «мінімалкі» адбываліся 1 студзеня і 1 траўня г.г.

**Максім Цітоў**

# Лінг абяцае плаціць за газ

**Да канца 1999 года Беларусь забяспечыць бягучыя плацяжы за расейскі газ і напалову скароціць запазычанасць — такое абяцанне даў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг на сустрэчы са старшынёй праўлення РАТ «Газпрам» Рэмам Вяхіравым, якая адбылася 21 верасня ў Менску.**

Паводле інфармацыі афіцыйных крыніц, падставай для гэтых абяцанняў і ўпэўненасці беларускага прэм'ера стала нядаўняе зніжэнне цаны на расейскі газ для беларускіх спажыўцоў — з 50 да 30 даляраў ЗША за кубаметр. На гэты момант доўг Беларусі «Газпраму» складае каля 230 мільёнаў даляраў ЗША. Сяргей Лінг гэтаксама запэўніў Рэма Вяхірава ў тым, што прыме жорсткія захады ў адносінах да неплацельшчыкаў за газ і іншыя энерганосьбіты.

На 28 верасня, паведаміў беларускі прэм'ер, запланавана пасяджэнне ўрада, у праекце рашэння якога ставіцца пытанне аб вызваленні ад займаемых пасадаў шэрагу высокапастаўленых кіраўнікоў.

**Наталля Кулагіна**

# Пракаповіч прагне крэдытаў

**Беларусь будзе ставіць перад Міжнародным валютным фондам (МВФ) пытанне аб аднаўленні крэдытавання па лініі «стэнд-бай» і ў межах праграмы надзвычайнага кампенсацыйнага фінансавання (CCFF).**

Пра гэта 16 версня на сустрэчы з журналістамі заявіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч. Паводле яговых словаў, сёння адносіны краіны з МВФ з'яўляюцца «ненармальнымі», прычым, як лічыць кіраўнік Нацбанка, менавіта у дадзеным выпадку вінаваты фонд. Задача з складаецца ў тым, каб бліжэйшым часам аднавіць добрыя адносіны з гэтай найбуйнейшай міжнароднай фінансавай арганізацыяй. Як паведаміў П.Пракаповіч, на маючым адбыцца 28-30 верасня штогадовым сходзе МВФ Беларусь мае намер паставіць перад кіраўніцтвам фонду пытанне аб аднаўленні перамоўнага працэсу.

«Наша палітыка сёння цалкам адказвае тым канонам, якія прад'яўляюцца МВФ... Я думаю, што адна з памылак 1998 года ў тым, што мы распачалі працаваць толькі па лініі CCFF, а фактычна ўсе ўмовы і патрабаванні былі па лініі «стэнд-бай». І атрымалася так, што мы ўсё зрабілі па лініі «стэнд-бай» і не атрымалі CCFF», — заявіў кіраўнік Нацбанка. Улічваючы становішча, што склалася ў выніку вось ужо другі год запар неспрыяльнага ўраджаю, а таксама ўплыву знешняга фактару (крызісу ў Расіі), Беларусь, адзначыў П.Пракаповіч, мае намер весці дыялог паводле дзвюх праграмаў крэдытавання адначасова. Аднак, нават пры самым спрыяльным для беларускага боку развіцці падзеяў, магчымы крэдыт краіна зможа атрымаць не раней за трэці квартал 2000 года.

**Аляксей Арэшка**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

